# Ніва

БЕЛАРУСКІ ТЫДНЁВІК




№ 21 (691) 25 МАЯ 1969 г. ЦАНА 60 гр.



На VI з'ездзе БГКТ. Галасуем мандатамі.

Фота: Цаф — Сянько.

## ГАЛОЎНАЕ ПРАЎЛЕННЕ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

1. Амброжэй Анна
2. Баршчэўскі Аляксандр
3. Баршчэўскі Васіль
4. Busловіч Юрка
5. Валкавыцкі Георгій
6. Вашчук Тэкля
7. Вішанка Янка
8. Врублеўскі Мікалай
9. Гайдук Мікалай
10. Даніловіч Надзея
11. Зенюк Іван
12. Іванюк Аляксандр
13. Каленік Аляксандр
14. Кіндзюк Янка
15. Кіслы Юрка
16. Краўчук Мікалай
17. Крэйза Сяргей
18. Мазалеўскі Расціслаў
19. Матэйчык Мікалай
20. Мартыновіч Анатоль
21. Масальскі Кастусь
22. Панасюк Аляксандра
23. Паўлоўскі Уладзімір
24. Паўлючук Ольга
25. Раеўскі Уладзімір
26. Рафаловіч Аляксандр
27. Саковіч Антон
28. Сакоўскі Васіль
29. Самоцік Мікалай
30. Серадзінскі Мікалай
31. Склубоўскі Вінцук
32. Суліма Іван
33. Суліма Мікалай
34. Філіпюк Сяргей
35. Харкевіч Аляксандр
36. Хмялеўскі Міхась
37. Храноўскі Аляксандр
38. Швед Віктар
39. Шыманюк Шымон
40. Юзвюк Уладзімір

### ПРЭЗІДЫУМ ГП БГКТ

1. Хмялеўскі Міхась — старшыня
2. Самоцік Мікалай — намеснік
3. Зенюк Іван — сакратар
4. Баршчэўскі Аляксандр — член
5. Гайдук Мікалай — член
6. Мазалеўскі Расціслаў — член
7. Матэйчык Мікалай — член
8. Шыманюк Шымон — член
9. Юзвюк Уладзімір — член

### РЭВІЗІЙНАЯ КАМІСІЯ БГКТ

1. Альшэўскі Язэп — старшыня
2. Бялецкая Лідзія — намеснік старшыні
3. Кізевіч Піліп — член
4. Кунах Аляксандр — член
5. Навіцкі Уладзімір — член

## ПІСЬМО VI З'ЕЗДА УЛАДЗІСЛАВУ ГАМУЛКУ

*Дарагі Таварыш Сакратар!*

*Мы, удзельнікі VI з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Беластоку, шлем Вам сардэчныя прывітанні.*

*Запэўніваем Вас, што з'яўляемся вернымі традыцыі польска-беларускага рэвалюцыйнага і культурнага супрацоўніцтва, якое яднала ў мінулым перадавых прадстаўнікоў нашых народаў у марах і барацьбе за нацыянальнае і грамадскае вызваленне. Барацьба гэта давяла да вызвалення нашай краіны і адкрыла цудоўную перспектыву мірнай працы для яе развіцця.*

*Мы ганарымся тым, што дзякуючы нашым супольным намаганням, пад Вашым, Таварыш Сакратар, кіраўніцтвам мы стварылі новы выгляд краіны, у якой рабочы без цяжкасцей знаходзіць сваё месца пры станку, селянін — трактар, паэт — ружу.*

*Запэўніваем Вас, што ў набліжаючыхся выбарах беларускае насельніцтва ў Польшчы масава аддасць свае галасы за кандыдатаў Фронту адзінства народа, бо нашыя мэты могуць быць дасягнуты толькі ў Народнай Польшчы, якая стала нашай супольнай і справядлівай Айчынай.*

*Беласток, 11.V.1969 г.*

## ПАСТАНОВЫ VI З'ЕЗДА БГКТ

1. VI з'езд БГКТ заклікае ўсіх членаў таварыства прыняць актыўны ўдзел у выбарчай кампаніі ў рады нарадовыя і сейм ПНР, а ў дзень выбараў аддаць свае галасы на прадстаўнікоў Фронту адзінства народа.

2. Шырока ўключыцца ў святкаванні 25-годдзя Польскай Народнай Рэспублікі. У сувязі з тым праводзіць народныя фестыны, арганізаваць канцэрты аматарскіх гурткоў, даклады, дэманстраваць фільмы, праводзіць сустрэчы.

3. Далей у сваёй дзейнасці адзначаць выдатныя гадавіны ПНР і БССР. Праз іх выхоўваць пачуцці патрыятызму і інтэрнацыяналізму, паглыбляць веды аб сваім народзе і гісторыі Польшчы.

4. Утрымоўваць і развіваць сувязі і супрацоўніцтва з усімі ўстановамі, арганізацыямі, якія дзейнічаюць сярод беларускай нацыянальнай меншасці.

5. Актыўней працаваць над далейшым ростам арганізацыі і сістэматычным аплачваннем складчын.

6. Аказваць большую дапамогу гурткам БГКТ часцей іх абслугоўваючы. Мабілізаваць членаў арганізацыі, а праз іх усё насельніцтва да шырокага ўдзелу ў грамадска-культурнай працы ў сваім асяроддзі.

7. ГП БГКТ і яго Прэзідыум павінны аказваць большую дапамогу аддзелам у іх працы, асабліва слабейшым.

8. Закончыць рэалізацыю пастаноў папярэдняга V з'езда БГКТ, а менавіта:

а) стварыць у ГП БГКТ выдавецкі аддзел з мэтай пашырэння выдавецкай дзейнасці таварыства,

б) зрабіць захады адносна павелічэння перадач БГКТ у радыёвузлах з 15 да 30 мінут штотыднёва.

в) імкнуцца да пабудовы новага школьнага будынка і інтэрната для агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Гайнаўцы.

9. Павялічыць лік экспанатаў беларускай матэрыяльнай культуры музея ў Белавежы. Да моманту пабудовы новага будынка распачаць старанні, каб экспанаты перанесці ў адпаведнае памяшканне і — галоўнае — іх адпаведна забяспечыць. Для гэтага стварыць асобны бюджэт для музея.

10. Забавязаць ГП БГКТ, каб у суботы і нядзелі дэманстраваліся фільмы ў вясковым асяроддзі, а не, як дагэтуль, у Беластоку.

(Працяг на стар.3)

ІНТЭРВ'Ю З КРЫСТЫНАЙ МАРШАЛЭК-МЛЫНЬЧЫК — КАНДЫДАТАМ У ПАСЛЫ СЕЙМА ПНР

## ПРА НАШУ ЗЯМЛЮ

— Ад шчырага сэрца віншуем з высокай узнагародай — Залатым Крыжам Заслугі. Як сябе адчуваеце?

— Узрушана, цешуся. Лічу гэта як узнагароду ўсёй нашай журналісцкай прафесіі. Я працую ўжо 14 год у Беластоцкай прэсе.

— Пагаворым тады аб Беласточчыне. Якая яна?

— Часта дзіўныя слухі ходзяць па краіне аб Беласточчыне. Людзі не надта ведаюць нашу спецыфіку, не арыентуюцца ў характары нашых перамен. Іх многія апініі крыўдзяць і наша ваяводства, і нас, людзей тут пражываючых. А тым часам у нас найлепш чалавек бачыць змены, якія наступілі. Тут чалавек пачаў ствараць усё ад пачатку. І ўсё што ёсць — тварэнне яго рук.

У многіх галінах, праўда, займаем далёкае месца, але тэмп нашых здабыч у культуры, у сельскай гаспадарцы, у прамысловасці ў апошнія чатыры гады быў хутчэйшы, чым сярэдняя краёвая. Што не дагналі яшчэ іншых, гэта не таму, што горш працуем, а таму, што горшы мелі старт.

— Лічыце, што Беласточчына мае сваё іншае аблічча?



Фота ЦАФ — Сянько

— Мае. Багацце абычаяў, мазаіка нацый, вельмі жывыя традыцыі народнай культуры розных груп, але і нізкі ўзровень урбанізацыі. Каб жа ў фарміраванні ацэнак усё гэта выкарыстоўваць! Чалавек хоча мець нешта ўласнае, непаўторнае. Шанц нашай спецыфікі ў народнай культуры. Толькі выдаецца мне, мы часта саромімся гэтага. Выдаецца, што народная культура — гэта прымітывізм. анахранізм, марым пра вялікія цывілізацыйныя дасягненні...

Хачу, каб мы не загубілі нашага народнага багацця, хачу, каб не даваліся мы да сухой бяздушнай стандарызацыі.

— Ваша праца, нашага пасла ў Сейме за мінулыя чатыры гады.

— Я працавала ў дзвюх сеймавых камісіях: культуры і мастацтва і працы і сацыяльных спраў. У першай камісіі падымала я, услед зрэшты за велізарнымі стараннямі ўсіх нашых паслоў і ваяводскіх партыйных і адміністрацыйных улад, справу развіцця культуры ваяводства, масавых сродкаў перакацу. Беласточчына апрацавала праграму развіцця культуры ваяводства. Усе супольныя нашы намаганні далі вынікі. Гэта — «Кантрасты». Гэта развіццё беластоцкай паліграфіі. Зараз будуецца вялікае паліграфічнае прадпрыемства. Гэта радыё і тэлебачанне — апрацавана ўжо дакументацыя ўласнага тэлевізійнага цэнтра ў Беластоку. Будова ў бліжэйшыя гады.

У другой камісіі я была найбольш заангажавана ў апеку над старымі. У нашым ваяводстве маем больш чым дзе людзей старых. Звязана гэта з пасляваенным ад-

Працяг на стар.4

# Падзеі ◇ Здарэнні ◇ Факты ◇ Каментарыі ◇ Весткі



## СВЕТ

### ПРАПАНОВЫ НАДЗЕІ

У мінулым тыдні мы пісалі аб дзесяціпунктавым плане развязкі в'етнамскай праблемы НФВ Паўднёвага В'етнама. У мінулым тыдні свет пачуў план ЗША выказаны прэзідэнтам Ніксанам, які складаецца з васьмі пунктаў. Сёння кораценька ахарактарызуем ніксанаўскі план развязкі в'етнамскай праблемы на фоне плана НФВ.

Ніксан у сваім плане прапануе частковае вывядзенне сваіх войск з Паўднёвага В'етнама, іншая частка амерыканскіх салдат асталася б у спецыяльных ваенных базах і не прыймала б удзелу ў паасобных акцыях. НФВ, як памятаем, поўнае вывядзенне чужых войск з В'етнама ставіў як першапланавую справу.

Амерыканскія прапановы абсалютна прамінаюць справу тымчасовага ўрада, пакліканне якога запрапанаваў НФВ на час правядзення свабодных выбараў. Вынікае з гэтага, што ЗША хочуць, каб выбары да канстытуцыйнага сходу праводзіў цяперашні сайгонскі ўрад. Напомнім, што такія выбары, згодна з пастановай жэнеўскай канферэнцыі, мелі адбыцца яшчэ ў 1956 г., але ЗША пачалі праводзіць розныя камбінацыі, каб не дапусціць да гэтага.

У прапановах Ніксана не гаворыцца аб нейтральнасці В'етнама. Гэта таксама адна з асноўных рыс, якая адрозніває план НФВ ад плана Ніксана. Гэтая розніца заключаецца перш за ўсё ў тым, ці ў Паўднёвым В'етнаме будзе нейтральны ўрад, ці астанецца сайгонская ўрадуючая кліка.

З ніксанаўскага плана можна вычытаць і такую нотку, што вывядзенне амерыканскіх войск адбудзецца тады, калі будзе абсалютная пэўнасць, што ўлада сайгонскіх марыянетак будзе непарушана.

НФВ у сваім плане гаворыць, што в'етнамцы самі дагаворацца адносна войск ДРВ, якія знаходзяцца на тэрыторыі Паўднёвага В'етнама, а амерыканцы патрабуюць раўнамернага іх вывядзення з амерыканскімі войскамі.

Не гледзячы на вялікія розніцы ў абодвух планах, многія палітычныя каментатары дашукоўваюцца пэўных супольных думак. Найважнейшай хіба ёсць тое, што ўпершыню ЗША публічна і адназначна сцвердзілі, што гэтай вайны не хочуць выйграць ваенным шляхам.

### ДАСЯГНЕННІ НАВУКІ

Дзве касмічныя станцыі «Венера 5» і «Венера — 6», высланыя ў студзені г.г. Савецкім Саюзам, прабыўшы 350 мільёнаў кіламетраў, пераказалі невядомыя дагэтуль даныя аб планеце Венера.

Савецкія даследванні планеты Венера пачаліся сем год таму — 12 лютага 1962 г. калі гэта ў кірунку гэтай фасцынуючай людзей планеты стартавала аўтаматычная станцыя «Венера — 1». Мінула яна тады планету на адлегласці каля 100 тыс. км. Потым 22 лютага 1966 г. стартавала «Венера — 2», вагой 936 кг., праходзячы ля планеты на адлегласці 24 тыс. км., а 1 сакавіка 1966 г. была запушчана «Венера — 4», якая трапіла ў планету. **А. К.**



## БССР

### ПЕРАМОГІ

У дзень Свята Перамогі ўскладзена вянкі і кветкі ля помнікаў загінуўшым героям Айчыннай вайны, ахвярам фашысцкага тэрору, на магілы партызан і падпольшчыкаў.

Вялікая ўрачыстасць адбылася ля помніка-абеліска воінам Савецкай Арміі і партызанам Беларусі. Ва ўрачыстасці ўдзельнічалі кіраўнікі партыі і ўрада Беларускай ССР на чале з П. Машэравым, першым сакратаром ЦК КПБ, Ц. Кісялёвым, Старшынёй Савета Міністраў БССР, С. Прытыцкім, Старшынёй Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі.

### УСЕСАЮЗНЫ

У Мінску адбыўся Усесаюзны семінар начальнікаў рэспубліканскіх і абласных штабаў паходу камсамольцаў і моладзі па месцах рэвалюцыйнай, баявой і працоўнай славы народа.

### КАНФЕРЭНЦЫЯ

У беларускай сталіцы адбылася Усесаюзная канферэнцыя па ідэйна-патрыятычнаму выхаванню вучняў. З гэтай нагоды газета «Чырвоная змена» заўважае:

«Такое выхаванне перш за ўсё павінна весціся на прыкладах людзей — гарачых патрыётаў Радзімы, самаадданых працаўнікоў (...) Няхай падлетак бачыць, што героі — не «звышчалавекі», а звычайныя, простыя людзі, якія ў той жа час адрозніваюцца ад іншых павышаным пачуццём адказнасці, высокім разуменнем свайго абавязку перад грамадствам».

### ФАРМАЦЭЎТЫ

З мэтай папулярызацыі дасягненняў хімічнай прамысловасці Польшчы ў вытворчасці фармацэўтычных сродкаў днямі ў Мінскім медыцынскім інстытуце адкрыта выстаўку польскіх лекавых прэпаратаў.

### КОНКУРСУ

Праўленне Саюза журналістаў Беларусі, Дзяржаўны Камітэт Савета Міністраў БССР па ахове прыроды, рэспубліканскія саветы Беларускага таварыства аховы прыроды, паляўнічых і рыбаловаў прынялі рашэнне аб правядзенні, пачынаючы з 1969 года, рэспубліканскага конкурсу на лепшае асвятленне ў друку, па радыё і тэлебачанню пытанняў аховы прыроды.

### АКАДЭМІ

На апошняй сесіі агульнага сходу Акадэміі навук Беларусі, прысвечанай арганізацыйным справам, прэзідэнтам Акадэміі выбраны доктар фізіка-матэматычных навук Мікалай Барысевіч. Віцэ-прэзідэнтамі выбраны акадэмікі М. Несцяровіч і К. Гораў.

### ДЗЕНЬ

12 мая адбыўся ў Беларусі Дзень турызму Германскай Дэмакратычнай Рэспублікі. У сувязі з тым у Мінск прыбылі прадстаўнікі нямецкіх турыстычных арганізацый.

### БАРЦЫ

У час сустрэчы па класічнай барацьбе паміж зборнымі камандамі барцоў Венгрыі і Беларускай ССР, якая адбылася нядаўна ў Мінску, беларускія барцы перамаглі з лікам 6:4. (ся)



## ПОЛЬШЧА

### У. ГАМУЛКА СЯРОД ВЫБАРШЧЫКАЎ

Ва ўсёй краіне адбываюцца сустрэчы кандыдатаў у паслы ў сейм і радных з выбаршчыкамі. 17 мая з выбаршчыкамі Варшавы сустрэўся кандыдат у паслы ў сейм І сакратар ЦК партыі Уладзіслаў Гамулка. Выступіў ён з прамоваю, у якой сканцэнтраваўся на гаспадарчых праблемах краіны і праблемах нашай замежнай палітыкі. Гаворачы аб справах гаспадаркі, І сакратар ЦК партыі адзначыў паспяховую рэалізацыю цяперашняга гаспадарчага плана, адначасова звярнуў аднак увагу на некаторыя адмоўныя бакі, якія выступаюць у нашай гаспадарцы. Асабліва дрэнна выглядаюць справы ў будаўніцтве. У месяцах студзень-красавік прадукцыя будаўляна-мантажных прадпрыемстваў пабольшылася ў адносінах да аналагічнага перыяду мінулага года ўсяго на 1,6 працэнтаў. Тым часам у Нацыянальным гаспадарчым плане прымалася гадавы ўзрост прадукцыі гэтых прадпрыемстваў у сярэднім на 7,2 працэнта. Прамоўца пераналізаваў некаторыя прычыны гэтага становішча і дарогі яго выпраўлення. Паляпшэнне гэтай сітуацыі будзе залежаць у першую чаргу ад добрай арганізацыі і дысцыпліны працы, а таксама ад захавання фінансавай дысцыпліны. У далейшай частцы свайго выступлення І сакратар ЦК партыі ахарактарызаваў дарогі далейшага гаспадарчага развіцця Польшчы, падкрэсліваючы з асаблівым націскам значэнне для гэтага развіцця супрацоўніцтва паміж сацыялістычнымі краінамі.

### ЗАКЛІК

16 мая ў Варшаве адбылася канферэнцыя кіруючага актыву прафсаюзаў. Удзельнікі канферэнцыі прынялі заклік з нагоды выбараў у сейм і рады нарадовыя. У закліку між іншым чытаем: **«Мы, прадстаўнікі 9,5 мільённай прафсаюзнай арганізацыі, адобрылі ад імя ўсяго польскага прафсаюзнага руху выбарчую праграму Фронту адзінства народа. Паўсюдным удзелам у галасаванні на кандыдатаў ФАН заманіфестуем нашу падтрымку для гэтай праграмы і давер да народнай улады. Актам гэтым задакументуем нашу нязломную волю далейшага ўмацоўвання маральна-палітычнага адзінства ўсяго грамадства ў рэалізацыі заданняў сацыялістычнага будаўніцтва, волю барацьбы з усялякімі пачынаннямі варожых Народнай Польшчы сіл».**

### РЫШАРД СТШЭЛЕЦКІ

13 мая сакратар Цэнтральнага Камітэта партыі Рышард Стшэлецкі сустрэўся з прадстаўнікамі плоцкіх прамысловых і будаўляных прадпрыемстваў, а таксама грамадскіх арганізацый і ўстаноў. У час сустрэчы сакратар ЦК выступіў з прамоваю. Сцвердзіў ён, што ідэя Фронту адзінства народа поўнасцю здала экзамен. Сфармаваўся таксама новы змест патрыятызму, як ідэі, якая выяўляе неразрыўную сувязь інтарэсаў дзяржавы і народа з пабудовай сацыялізма. (п)



## ВАЯВОДСТВА

### СУСТРЭЧЫ З КАНДЫДАТАМІ

Кандыдаты Фронту адзінства народа на паслоў і радных усіх узроўняў амаль кожны дзень праводзяць сустрэчы з насельніцтвам Беласточчыны.

17 мая ў Гайнаўцы пабывалі: старшыня Цэнтральнай камісіі партыйнага кантролю З. Новак, член ЦК ПАРП і І сакратар Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку — А. Лашэвіч, а таксама член Рады Дзяржавы — Э. Красоўская.

З. Новак і А. Лашэвіч сустрэліся з рабочымі драўнянай прамысловасці Гайнаўкі. Спадарожнічалі ім кандыдаты ў радныя ВРН — Д. Карповіч і В. Абрамчык, а таксама кандыдаты ў радныя ПРН — дырэктар Гайнаўскага камбіната драўнянай прамысловасці Аляксей Зін і старшыня Прэзідыума ПРН у Гайнаўцы Аляксандр Хілецкі. Гэтая сустрэча была вельмі цікавая і змястоўная.

Яўгенія Красоўская была госцем гайнаўскіх настаўнікаў, якія сабраліся ў Доме настаўніка. Ёй спадарожнічаў сакратар Ваяводскага камітэта Дэмакратычнага стронніцтва ў Беластоку Э. Паплінскі. Тут ішла гутарка пра ўмовы працы настаўнікаў у горадзе і ў вёсках.

Гэтага самага дня ў Кольне з настаўнікамі і прадстаўнікамі грамадскасці Кольненскага павета сустрэўся намеснік старшыні Галоўнага Камітэта ЗСЛь, кандыдат у паслы — Балеслаў Падэдворны, а разам з ім — кандыдат у паслы з Кольненскага павета Станіслаў Навінскі і кандыдаты ў радныя ВРН: Яніна Ягельская, Станіслава Раецкая і Вацлаў Галдынскі. Тут таксама пагаспадарску гаварылася аб патрэбах і развіцці кольненскай зямлі. Удзельнікі сустрэчы наведалі новапабудаваную ў Кольне пачатковую школу. Наступнага дня, у нядзелю 18 мая, З. Новак і А. Лашэвіч пабывалі ў Сямяцічах.

### СВЯТА КУЛЬТУРЫ

З нагоды Дзён асветы, кніжкі і друку штогод адзначаецца Дзень дзеяча культуры. У гэтым годзе супаў ён у Беластоку з II-ім з'ездам Беластоцкага таварыства культуры. З'езд праходзіў у Клубе міжнароднай кніжкі і друку. Прыняла ў ім удзел Э. Красоўская. Удзельнікі з'езда ацанілі дзейнасць БТК і выбралі новае праўленне. Старшынёю рады БТК выбраны сакратар Ваяводскага камітэта ПАРП, тав. В. Мікульскі, а старшынёю праўлення БТК — рэдактар Крыстына Маршалэк. Многія найбольш ахвярныя і заслужаныя дзеячы культуры атрымалі высокія дзяржаўныя ордэны і адзнакі.

### СВЯТА БУДАЎНІКОЎ

23 тысячы рабочых будаўнікоў 17 мая г.г. урачыста адзначала сваё свята. З гэтай нагоды адбылася ў Беластоцкім тэатры ўрачыстая акадэмія, у якой прынялі ўдзел: З. Новак і А. Лашэвіч. Толькі ў мінулым годзе будаўнікі Беластоцкага ваяводства пераказалі ў карыстанне 9300 жылых кватэр, 15 школьных будынкаў, 27 будынкаў для прамысловых прадпрыемстваў і шмат іншых аб'ектаў. (вр)




**NIEDZIELA, 25 MAJA**

8.10 Program dnia; 8.15 „Przypominamy, radzimy"; 8.30 „Mija czas, wspomnienia pozostają"; 9.00 Sprawozdanie filmowe z Mistrzostw Europy w gimnastyce; 10.00 Film; 10.30 „Kronika 50-lecia Kraju Rad" — rok 1938; 11.00 „Melodie na dzień dobry"; 11.30 „Twierdza Bratysławska" („W świecie sztuki"); 11.40 Film rozrywkowy; 12.00 Dziennik; 12.15 Przerwa; 13.45 „Przemiany"; 14.15 „Politechnika — Uniwersytet" — teleturniej; 15.15 „Piórkiem i węglem"; 15.40 „Przeboje"; 16.15 XXII Wyścig Pokoju. Sprawozdanie z XV etapu Zeitz — Berlin. Zakończenie Wyścigu; 17.00 Turniej Miast: „Zawsze w niedzielę" (Kartuzy — Kościerzyna); 18.40 „Autoportret Gepperta" („Portrety"); 19.20 „Dobranoc"; 19.30 Dziennik; 20.05 „Rok ostatni" — film („Drogi i bezdroża II Rzeczypospolitej"); 20.55 „Kłopoty z medalionem — nowela filmowa fr.; 21.25 „Tele-Mocca" — program rozrywkowy; 22.15 1. Sprawozdanie filmowe z Mistrzostw Europy w gimnastyce sportowej. 2. Sprawozdanie filmowe z meczu eliminacyjnego Mistrzostw Europy w korzykówce Węgry — Polska (Budapeszt). 3. Kronika Wyścigu Pokoju. 4. Wiadomości sportowe.

**PONIEDZIAŁEK, 26 MAJA**

15.25 Program dnia; 15.30 i 22.40 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla dzieci: „Zwierzyniec"; 17.30 „Echo Stadionu"; 17.55 „Magazyn Postępu Technicznego"; 18.25 „Flisacy — żeglarze, którzy znikają" — film dok. rum.; 18.40 „Spacerkiem po kinach"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.00 Teatr TV: J. Słowacki — „Mazepa"; 22.00 Dziennik; 22.15 „Piosenka dla Ciebie".

**WTOREK, 27 MAJA**

9.55 Dla szkół: (kl. I lic.) Język polski — J. Goethe „Faust"; 10.35 „Poszukiwanie" — film („Bonanza"); 11.25 Przerwa; 12.00 Dla szkół: (kl. II i III) „Chrońmy przyrodę ojczystą"; 12.20 Przerwa; 12.45 i 14.55 Przysposobienie Rolnicze: „Praca stacji chemiczno-rolniczej"; 13.20 Przerwa; 14.50 Program dnia; 15.30 i 22.45 Politechnika TV I roku; 16.35 Dziennik; 16.45 „Obrazki ze starej Pragi" — film CSRS; 17.00 „Magazyn ITP"; 17.10 Film rozrywkowy; 17.45 „Polska zza siódmej miedzy"; 18.15 „Poszukiwacze" — film („Bonanza"); 19.05 „10 minut recenzji"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Telewizyjny Ekran Młodych; 22.00 Dziennik.

**ŚRODA, 28 MAJA**

9.55 Dla szkół: (kl. VIII) Fizyka — „Elementy radiotechniki"; 10.25 „Wieczór z Anną Moffo" — filmowy program rozrywkowy; 11.15 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VII) Chemia — „Najważniejszy z kwasów"; 12.25 Przerwa: 14.55 Program dnia; 15.00 Matematyka w szkole: „Matematyka szkolna a matematyka współczesna" cz. I; 15.30 i 23.10 Politechnika TV. Kurs przygotowawczy; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla młodych widzów: „Zrób to sam"; 17.00 Dla dzieci: J. Wilkowski — „Ula i świat"; 17.30 „Polski Sad" — program Red. Wiejskiej; 18.00 TV Kurier Warszawski; 18.15 „Sylwetki X Muzy" — Stanisław Mikulski; 18.45 „Horyzonty"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Pieśń triumfującej miłości" — film TVP („Opowieści niezwykłe"); 20.30 „Światowid"; 21.05 PKF; 21.45 Studio 63: L. Rudnicki — „Byłem i ja..." wg I tomu „Stare i nowe"; 22.25 Dziennik; 22.40 „Wymiar jazzu" — balet do muzyki A. Kurylewicza.

**CZWARTEK, 29 MAJA**

10.55 Dla szkół: (kl. VI) Historia — „Od cechowego mistrza do robotnika fabrycznego"; 11.25 Przerwa; 11.55 Dla szkół: (kl. VIII) Język polski — „Władysław Broniewski"; 12.25 Przerwa; 15.25 Program dnia; 15.30 i 22.50 Politechnika TV I roku; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla młodych widzów: „Ekran z bratkiem"; 17.50 „Świat poza czasem" — rep. film „Tele-Aru" („Z kamerą po świecie"); 18.05 „Wybitni polscy artyści wykonawcy"; 18.40 „Mazowieckie krajobrazy"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 „Od ziemi idzie życie" („Wielcy znani i nieznani"); 20.35 „Dwaj panowie „N" — film fab. pol.; 21.15 Dziennik; 22.30 „Cztery Menuety Mozarta" — progr. słowno-muzyczny.

**PIĄTEK, 30 MAJA**

10.00 „Dwaj panowie „N" — film fab. pols.; 11.40 Przerwa; 15.05 Program dnia; 15.10 „Wybieramy zawód"; 15.30 i 22.40 Politechnika TV I roku; 16.35 Dziennik; 16.45 Dla dzieci: „Kino Ptyś"; 17.05 Dla dzieci: „Miś z okienka"; 17.20 TV Kurier Mazowiecki; 17.35 „Nowoczesność w domu i zagrodzie"; 17.55 „Czwarta zmiana"; 18.20 Film z serii „Don Kichot"; 18.20 Wszechnica TV: „Nasi uczeni"; 19.20 Dobranoc; 19.30 Dziennik; 20.05 Recital Jean Claude de Pascala; 20.40 Teatr TV: „Młodość Jasia Kunefała"; 21.40 „Rozmowy o książkach"; 21.55 Radziecki Zespół Jazzowy; 22.25 Dziennik.

**SOBOTA, 31 MAJA**

9.15 „Gdzie jest generał" — film fab. pol.; 10.55 Dla szkół (kl. VIII) Nauka o człowieku: „Służba zdrowia"; 11.25 Przerwa; 12.45 Dla szkół (kl. VIII) Geografia: „Polska na mapie gospodarczej świata"; 13.15 Przerwa; 15.30 Program dnia; 15.35 TV Kurs Rolniczy: „Przygotowania do żniw w kółkach rolniczych"; 16.10 Program Tygodnia; 16.55 Dziennik; 16.45 Program Specjalny z okazji Międzynarodowego Dnia Dziecka; 18.05 „Spotkania z przyrodą"; 18.35 „Rewia zespołów"; 19.20 Dobranoc; 19.30 „Monitor"; 20.10 „Gdzie jest generał" — film fab. pol.; 21.45 „Dziś Księżniczka Czardasza" — montaż operetkowy; 22.45 Dziennik TV i Wiadomości Sportowe.




**PIĄTEK, 23 MAJA**

8.00 Dziennik; 8.15 „Cuda przyrody"; 8.30 „Gdzie był Lenin"; 14.35 Program dnia; 14.40 O obronie obywatelskiej; 15.00 „Generał Komuny"; 15.30 „Panorama nowin"; 16.00 „Słowo o męstwie"; 16.20 „Budowniczy"; 17.00 Dni kultury bułgarskiej w ZSRR; 20.00 „Sztafeta nowin"; 20.45 Koncert orkiestry estradowej; 21.45 Mistrzostwa świata w szachach; 21.55 Wyścig Pokoju; 22.05 „Tylko fakty".

**SOBOTA, 24 MAJA**

8.00 Program rozrywkowy; 8.30 „Aktualne problemy ekonomiki"; 9.00 „Wielka chemia Białorusi"; 9.30 „Szkatułka muzyczna"; 9.45 Przegląd międzynarodowy; 10.05 Almanach muzyczny; 11.05 „Nowiny dnia"; 11.15 „Zdrowie"; 11.45 „Lekcje męstwa"; 13.00 „Na skrzydłach pieśni"; 13.40 „O szachach i szachistach"; 14.00 „Klub wiejski"; 15.00 Europejski turniej juniorów w piłce nożnej. Półfinał; 16.30 Spektakl TV; 17.30 „Nasze wspólne święto"; 18.00 „Życie w cytadeli". Film fabularny; 19.30 TV barwna; 20.30 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (mężczyźni).

**NIEDZIELA, 25 MAJA**

8.00 „Kiosk muzyczny"; 8.30 „Stuletni partyzant"; 9.00 Dla uczniów; 9.30 „Poszukiwacze"; 10.30 Dla żołnierzy; 11.00 „Godzina wiejska"; 12.00 K. Simonow. „Czwarty". Spektakl teatralny; 14.00 Dzień chemika; 14.30 „Kronika życia muzycznego republiki". Zakończenie; 15.30 Nowiny; 15.40 TV barwna; 18.00 Dni kultury bułgarskiej w ZSRR; 19.10 „Europa — wydarzenia, kraje, problemy"; 19.55 „Tydzień sportowy"; 20.10 Mistrzostwa Europy w gimnastyce (mężczyźni).

## ПРЫВІТАННЕ АД МІНІСТРА ЎНУТРАНЫХ СПРАЎ

З аказіі VI з'езда Беларускага грамадска-культурнага таварыства ў Польшчы шлю дэлегатам і актыву Таварыства сардэчныя прывітанні і пажаданні плённай працы.

Перыяд, які прайшоў ад апошняга Вашага з'езда, характарызаваўся актыўнай грамадскай і культурна-асветнай дзейнасцю ўсіх арганізацыйных звенняў Таварыства.

Я перакананы, што Беларускае грамадска-культурнае таварыства і далей будзе паспяхова развіваць культурна-асветную дзейнасць, паглыбляць сярод сваіх членаў і ў сваім асяроддзі вядомыя прагрэсіўныя і рэвалюцыйныя традыцыі і грамадскую актыўнасць для далейшага развіцця нашай сацыялістычнай Айчыны — Народнай Польшчы.

Міністр унутраных спраў

## ПРЫВІТАННЕ АД МІНІСТРА АСВЕТЫ І ВЫШЭЙШАЙ АДУКАЦЫІ

Сардэчна дзякую за прысланае запрашэнне прыняць удзел у VI з'ездзе Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Мушу, на жаль, паведаміць, што пільныя службовыя справы не дазваляюць мне выкарыстаць гэта запрашэнне.

Дазвольце мне пераслаць Галоўнаму праўленню, а таксама ўдзельнікам з'езда сардэчныя прывітанні і пажаданні паспяховай працы.

Генрык Яблонскі

Пачатак на стар. 1

## ПАСТАНОВЫ VI З'ЕЗДА БГКТ

11. Наладзіць пастаянны абмен вопытам у працы паміж аддзеламі БГКТ.
12. Разважыць магчымасці адносна прыдзялення Гданьскаму і Гайнаўскаму аддзелам штатных інструктараў да асветна-культурных спраў.
13. Задбаць пра арганізацыю аддзела беларускай філалогіі пры ВСН Варшаўскага універсітэта ў Беластоку.
14. З'езд абавязвае аддзелы БГКТ, каб у далейшым праводзілі збор экспанатаў для Белавежскага музея.
15. Імкнуцца да поўнага выкарыстання бюджэту.
16. Зрабіць захады, каб радыёперадачы на беларускай мове беластоцкага радыё былі больш актуальныя.
17. Зрабіць захады ў справе наведання Беласточчыны беларускімі пісьменнікамі.
18. Прапагаваць збор грамадскіх складчын на пабудову музея.
19. Варшаўскаму аддзелу прызнаць большую суму грашовых сродкаў на культурную дзейнасць.
20. Задбаць пра стварэнне магчымасці абмену вопытам паміж настаўнікамі БССР і нашымі, асабліва ў рамах прыгранічнага абмену.

## „Тройка" падвойваецца

Адзіная ў нас гарадская пачатковая школа з прадметам беларускай мовы, якая існуе ў Бельску, хутка развіваецца. Сёлета будзе адкрыта ў ёй два першыя класы. Бацькоў, ахвотных запісаць свае дзеці ў гэту школу, ёсць больш, чым месц у ёй.

Школа гэта, папулярна званая «тройкай» — ад чарговага нумара навучальнага раёна — знаходзіцца ў будынку Беларускага ліцэя. Супольнае памяшканне з'яўляецца не толькі сімвалічным: пачатковая школа нумар 3 выхоўвае добра падрыхтаваных кандыдатаў у гэты ж ліцэй. Папулярнасць «тройкі» вынікае таксама з таго, што працуюць у ёй высокакваліфікаваныя настаўніцкія кадры, адданыя сваёй педагагічнай прафесіі. Характэрнае, што ў трэцяй школе вучацца і польскія дзеці, жывое сведчанне нарадзін добрых традыцый суседскага ўзаемаразумення ў нацыянальназмешаным асяроддзі.

(ся)

# НА VI З'ЕЗДЗЕ БГКТ

(ФОТАРЭПАРТАЖ ЦАФ — СЯНЬКО)



Узнагароды заслужаным актывістам уручае старшыня ГП БГКТ.



Сардэчныя прывітанні і кветкі ад моладзі бельскага і гайнаўскага ліцэяў з беларускай мовай навучання.



Перад будынкам ГП БГКТ. Тут, на Варшаўскай 11, гэтага дня сустрэліся многія знаёмыя па бэгэкатоўскай дзейнасці.



Намеснік старшыні рэвізійнай камісіі Лідзія Бялецкая складае справаздачу, прапануючы ўступаючаму Галоўнаму праўленню ўдзяліць абсалюторыум.



У час перапынку варта агледзець выстаўку народных вырабаў.



Прыцягвала ўвагу таксама фотавыстаўка «Па Савецкай Беларусі».



Дэлегаты ацэньваюць кожнае слова, сказанае з трыбуны з'езда.

 

Пачатак на стар. 1

## ПРА НАШУ ЗЯМЛЮ

плывам маладых у прамысловыя цэнтры. На гэтую тэму я многа разоў гаварыла. У нас мала дамоў апекі, нявыкарыстаны прафсаюзы, якія павінны праблемай заняцца. Напрыклад, у Гайнаўцы некалькі прамысловых прадпрыемстваў. Яны ж бы разам маглі збудаваць дом уласным пенсіянерам. Тое самае ў Лапах з чыгуначнымі рабочымі. Жыллёвая спулдзельчасць ні чуць не падумала, каб ствараць свайго роду пенсіянаты.

— Адбыўся з'езд Беластоцкага таварыства культуры, якое вы ўзначальваеце. Чатыры гады за намі. Ці добрыя былі? Чаго навучылі?

— Чатыры мінулыя гады прайшлі пад знакам арганізацыйных пошукаў. Наша канцэпцыя была зусім новай — гэта канцэпцыя агульнаваяводскай федэрацыі. Заданнем было раскруціць грамадскі рух, заахвоціць ствараць рэгіянальныя таварыствы зацікаўленняў. Многа нам удалося. Стварылі мы аўтэнтычны рэгіянальны рух. Ужо працуе 6 таварыстваў: белавежскае, цеханоўскае, драгічынскае, аўгустоўскае, граеўскае, супрасльскае. Арганізацыйныя групы ёсць у Сямяцічах, Бельску, Ганёндзу, Есяноўцы, Алецку, Лысых. Нешта клеіцца ў павеце Высокамазавецкім і Беластоцкім.

Заданнем нашым — папулярызацыя Беласточчыны, барацьба з міфамі. Робім гэта праз нашы выдавецтвы: выйшлі фальдэры пра Цехановец, Візну, Наваград. Рыхтуецца супольна з Белавежскім таварыствам 5 фальдэраў пра Белавежу. Будзе цыкл аб 25-цігадовых дасягненнях у асвеце і культуры Беласточчыны.

— 4-гадовы свой экзамен БТК здало. І далей...?

— Будзе далейшае мацаванне федэрацыі. Для дабра нашай супольнай культуры бачым у БТК шырокі ўдзел усіх. Супольна хочам прымаць ініцыятывы, хочам інтэграваць ваяводства з яго разнароднасцю, а ўсё ж і яго адналітасцю. Гэты новы арганізм мае багацце асаблівасцей, вырас і стаўся нашай зямлёй, з уласным культурным і ўніверсітэцкім цэнтрам.

— Шырока адбіўся нумар «Кантрастаў», прысвечаны беларускаму аб'яднанню «Белавежа». Што вы, як галоўны рэдактар «Кантрастаў», можаце сказаць аб далейшым супрацоўніцтве з «белавежцамі»?

— «Кантрасты» — часопіс БТК, а БТК федэрацыя ўсіх з добрай волі. Таму і часопіс служыць усяму культурна-грамадскаму руху. На супрацоўніцтва чакаем.

— Пазвольце, што заглянем у ваш дзень звычайны. Як раіце?

— Мо не скромна выйдзе, але дзень у мяне перагружаны працай. Каб не мама, не падолела б. Але мама сказала, што яна грамадскім чынам выхавае майго сына. Чын свой рэалізуе.

— Мы дзякуем за думкі, за словы. Жадаем выбару на пасла ў новай кадэнцыі і новых турбот у сейме за нашу прыгожую Беластоцкую зямлю.

Інтэрв'ю вяла

**Вера Леўчук**

## ПА СЛЯДАХ БАЛАГАНУ

Агародніцтва, як новая галіна сельскай гаспадаркі, развіваецца ў нашых вёсках у апошнія гады. Усё яшчэ недацэньваем вялікай даходнасці агародніцкіх культур, на тыповых загонах за гумнамі расце капуста, агуркі, буракі, часамі трускалкі, але ўсяго пакрысе і столькі, колькі патрэбна нам на ўласны стол — а нават і менш таго. Каралева Бона навучыла нас цаніць харчовыя вартасці агародніх культур, але займацца масавым вырошчваннем іх дзеля патрэб гарадскога рынку вучымся цяпер.

У Курашаве, на Гайнаўшчыне, навучыліся вырошчваць памідоры, па якія прыязджаюць гандляры не толькі з Беластока, але аж з далёкага Гданьска: купляюць масава, тонамі, не таргуючыся занадта. Вёска Паўлы на Бельшчыне на адных трускалках зарабіла ў мінулым годзе больш чым паўтара мільёна злотых. Мільёнавыя прыбыткі маюць такія вёскі, як Дэніскі, Нямірава, дзе вырошчваюць агуркі, а таксама Краснае Сяло, Шумкі, дзе добра развіваецца садоўніцтва. У Красным Сяле закладзена аж пятнаццаць новых садоў, такой другой вёскі няма ў цэлым ваяводстве.

### Ці мы добрыя агароднікі?!



І гэта бадай усе прыклады, якімі можна і трэба хваліцца. Больш няма. Не дзіва, што на Беласточчыне вельмі малое спажыццё яблык, трускалак, капусты, салаты, морквы і іншых надта здаровых арганізму агародніх раслін. Беластоцкі спажывецкі гандаль вымушаны закупляць іх у суседніх ваяводствах — Варшаўскім і Люблінскім. Мы, як Беласточчына, амаль не існуем на польскім агародніцкім і садоўніцкім рынку. Даволі сказаць, што кантрактаваны арэал садоў у 1960 годзе быў роўны нулю, зараз — усяго 280 гектараў. Трускалак спулдзельня з прыгожай назвай «Вітаміна» кантрактавала ў 1960 годзе ўсяго няцэлых тры гектары, больш не было. Цяпер кантрактуе каля пяцісот, таксама мала.

Адначасова ўзнікае і такая праўда, што вырошчваць многа — гэта яшчэ не ўсё: трэба вырошчваць многа і добра. І гэта яшчэ не ўсё: трэба вырошчваць многа, добра і танна. Аб тым пераканаліся гаспадары, што кантрактуюць цыбулю ў Крынках, Юраўлянах, Піражках. Іх цыбуля задарагая, існуюць цяжкасці з продажам яе на ўнутраным і замежным рынках. Закон усялякай прадукцыі такі, што той мае перспектыву, хто можа прадукаваць і добра, і танна, танней ад іншых. Каб таго дасягнуць неабходная высокая спецыялізацыя і канцэнтрацыя сродкаў. З гэтай мэтай у кожным павеце ўтворана па адным або два агародніцкія раёны, якія карыстаюцца асаблівай апекай гандлёвых арганізацый дзеля дасягнення высокіх кваліфікацый у гаспадароў, што заняліся агародніцтвам. Гэта спосаб, адзіны эканамічна разумны, які давядзе да павелічэння прадукцыі і змяншэння яе сабекоштаў, што гарантуе пэўны збыт, продаж. У супрацiўным выпадку бывае так, што гандлёвым арганізацыям лягей аплачваецца завозіць цыбулю ў Беласток з Варшавы, чым з Крынак... Да таго яшчэ, праўда, не дайшло ў масавых размерах, але першыя знакі такой небяспекі ўжо наглядаюцца хаця б у крынкаўскіх нараканнях на цяжкасці з продажу той жа цыбулі. Першыя пачаткі сапраўды фаховай, таму і моцна даходнай агародніцкай гаспадаркі можна бачыць у пачынаннях братоў Нікіцюкоў з Падбелля каля Дубяжына. Яны, спецыялісты з сярэдняй агародніцкай адукацыяй, будуюць шклярні, па пяцьсот квадратных метраў кожная, дзякуючы якім сезон прадоўжыцца і на зімовы час, калі вялікі недахоп на ўсялякую зяляніну. Падобныя ініцыятывы патрэбны як хлеб і вада.

На агародніцкую гаспадарку маюцца немалыя крэдыты, існуе значная кадра спецыялістаў, гатовых аказаць параду і падмогу, і г.д. Аднак у цэлай гэтай незайздроснай сітуацыі вінаваты таксама арганізацыйны балаган, бо падтрымкай агародніцтва займаецца многа розных арганізацый і адначасова ніводная з іх, тых арганізацый і ўстаноў, няздольная аказаць болей салідную падмогу або падтрымку, апрача спулдзельні «Вітаміна». Гаворачы гэта маецца на ўвазе тэрытарыяльную прамысловасць, гарадскі гандаль, прыватны гандаль, «Сполэм», спулдзельні працы, фірму «Ляс» — разам больш дзесятка! Канцэнтрацыя прадукцыі павінна адбывацца адначасова з канцэнтрацыяй арганізацыі гэтай жа агародніцкай прадукцыі. Маем дачыненне, менавіта, з такой дзіўнай раздвоенасцю, якая істотным чынам блытае перспектыву. Адбываецца дэмаралізацыя гаспадароў, якія займаюцца агародніцтвам: маўляў, не купіць «Вітаміна», то купіць «Сполэм». Скажам, «Сполэм» купляе, бо хоча выканаць план куплі агародніны, потым мае цяжкасці з яе збытам, бо дрэннай якасці яна, не вытрымоўвае канкурэнцыі і т.п. Бязвыхаднае блудава! Планы выконваюцца без думкі іх рэальнасці, бюракратычна, без глыбейшага сэнсу і карысці.

У такой сітуацыі цяжка спадзявацца добрага развіцця вызначаных агародніцкіх раёнаў — Крынак, Курашава, Войшкаў, Паўлаў, Краснага Сяла, Дэніскаў, Новай Волі, Янова і г.д. У значнай меры «Вітамінай» утвораную памідоравую гаспадарку ў Курашаве зараз перахапляюць іншыя, а калі якасць памідораў пагоршае, Курашава пакінуць усе кліенты. Хто тады паможа ім выйсці з заняпаду? Лёгка выкарыстаць гатовае, цяжка памагчы, каб было ляпей. На тое патрэбны і салідарнасць, і сродкі. (С.Я.)

## ЛЮДЗІ БГКТ

### Аляксандр Харкевіч



У Ляшуках нарадзіўся, вырас і там многа год працуе кіраўніком школы, выхоўвае дзеці сваіх аднавяскоўцаў. А калі яны закончаць пачатковую школу, далей утрымоўваюць беспасрэдны кантакт са сваімі выхавацелямі. Аляксандр Харкевіч далей іх выхоўвае, з імі разам арганізуе і ўдзельнічае ў аматарскім руху, з імі разам ініцыюе і рэалізуе шматлікія грамадскія чыны пры пабудове школы, крамы, дарог.

Аляксандр Харкевіч з'яўляецца членам камісіі да падрыхтоўкі беларускіх падручнікаў пры міністэрстве асветы і праяўляе там вялікую актыўнасць. Вядомы ён як добры арганізатар працы ў Настаўніцкім звяне Саюза польскіх настаўнікаў.

Успомнены кіраўнік школы неаднойчы ўзначальваў сваю ляшуцкую партыйную арганізацыю. Жыве ён справамі свае вёскі, свайго асяроддзя і выконвае шмат грамадскіх функцый, якіх налічваецца аж 13. Адной з іх — старшынства ў радзе надзорчай ГС-у ў Нараўцы.

Як выпрабаваны дзеяч, які карыстаецца вялікім аўтарытэтам сярод сялянства, кандыдуе ён зноў на раднага Павятовай рады нарадовай.

Неабходна тут падкрэсліць, што Аляксандр Харкевіч ужо некалькі кадэнцый з'яўляецца членам Галоўнага праўлення і членам праўлення Гайнаўскага аддзела БГКТ. мх

## СГГВ У БЕЛАСТОКУ

Яшчэ ў гэтым годзе Варшаўская галоўная школа сельскай гаспадаркі СГГВ адкрые ў Беластоку кансультацыйны пункт. Згодна з паведамленнем мясцовых беластоцкіх улад набор кандыдатаў у СГГВ з тэрыторыі Беласточчыны працягнецца да канца жніўня, уступныя экзамены адбудуцца ў снежні, акадэмічны год у беластоцкім кансультацыйным пункце СГГВ пачнецца пасля новага 1970 года. Патрэбныя дакументы трэба кіраваць па адрасу СГГВ у Варшаве.

Падрыхтоўчыя курсы для кандыдатаў адбудуцца восенню ў Беластоку — праўдападобна ў будынку Сельскагаспадарчага тэхнікума, які знаходзіцца ў дайлідскім парку.

Вестка гэта вельмі радасная не толькі таму, што Беластоку прыбудзе яшчэ адна вышэйшая навучальная ўстанова. Справа перш за ўсё ў тым, што Беласточчына наша, як сельскагаспадарчы раён краіны, моцна патрабуе высокакваліфікаваных кадраў сельскай гаспадарцы. (ся)




Вёска Калодна знаходзіцца ў даліне акружанай з усіх бакоў пагоркамі пакрытымі лесам. Непадалёк плыве рэчка Супрасль. З вышыні пагоркаў вёска прадстаўляе сабою гурбу забудаванняў згуртаваных быццам стада авечак.

У Калодным знайшоўся я напярэдадні праваслаўнага Вялікадня. Калодна — вёска веравызнаўча меншая, відаць тут было, аднак, сапраўдны перадсвяточны настрой. Людзі замяталі вуліцы і панадворкі, у праваслаўных хатах рабілася парадкі.

З журналісцкага абавязку шукаю кагосьці з мясцовага «начальства»: солтыса, прэзаса сельскагаспадарчага гуртка. Знайсці, аднак, не так лёгка, у першыя дні сапраўднай вясковай вясны. Прэзас паехаў у лес, солтыс выйшаў баранаваць поле. Разгаварыўся я тады з солтысавую жонкаю, маладзіцай родам аж з Вярхлесся. Успамінаю сваіх знаёмых з Вярхлесся, пытаю пра іх лёс. Потым пра справы Калоднага: ці ёсць ЗМВ, Кола вясковых гаспадынь і іншыя арганізацыі, ды што яны робяць у вёсцы?




— Усё ёсць, але лепш апішыце нашую святліцу. Во, трэба іх так добра абмаляваць.

— Каго?

— Улады, што так дбаюць пра нас. Казалі, будуйце святліцу грамадскім чынам, мы вам дапаможам. Пачалі будаваць тры гады таму назад. Вымуравалі сцены аж пад страху. Улады абяцалі дапамагчы зрабіць выканчэнне і да сённяшняга дня так дапамагаюць. Пайдзіце ў канец вёскі, убачыце. — Солтыс жа тут таксама ўлада, — уціскаю ў тутарку солтысавай жонкі сваіх «пяць грошай».

— Ой, якая там солтыс улада. Тут прыязджаюць да нас розныя «начальнікі» з горада. На кожным сходзе, як толькі нехта з Беластока прыедзе, гаворым аб гэтым, кожны адказвае: я паеду ў Беласток, дык гэтае «парушу». І так «парушаюць» па сённяшні дзень. Можа вы нешта там сапраўды «парушыце».

— Паспрабую, — адказваю па меры магчымасці скромна.

Тры гады таму назад быў я ўлетку з сябрамі ў Калодным. Людзі якраз усёй вёскаю працавалі пры закладанні фундаментаў святліцы. Мы цешыліся: аўтэнтычны грамадскі чын невялікай, закінутай між лясамі вёскі; сябры рабілі здымкі людзям з шуфлямі ды ла-



 

## РОДНАЯ ЛІТАРАТУРА

## БАРЫС САЧАНКА

# АПОШНІЯ І ПЕРШЫЯ

**Барыс Сачанка нарадзіўся 15 мая 1936 года ў вёсцы Вялікі Бор Гомельскай вобласці. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Першыя апавяданні Б. Сачанкі паявіліся ў друку ў 1956 г. Выдаў зборнікі апавяданняў і аповесцей «Дарога ішла праз лес» (1960), «Барвы ранняй восені» (1962), «Зямля маіх продкаў» (1964), «Вол-фігурыст» (1966), «Пакуль не развіднела» (1966), «Апошнія і першыя» (1968).**

**Урывак, які прапануем увазе чытачоў, мы выбралі з аповесці «Апошнія і першыя» (хвалюючая кніга пра вайну бачаную вачыма дзіцяці).**

На магіле маці сваёй плакала, аблівалася слязьмі Дзіця. Плакала не дзень, не два, а доўгія месяцы, гады. І сэрца, каменнае, нечалавечае сэрца старое кашчавае Смерці не вытрымала — закалацілася: з рук у яе выпала шчарбатая каса, а на вочы нагарнуліся слёзы.

— Што табе трэба, ад мяне, Дзіця? — спытала Смерць.

— Нічога мне твайго не трэба, — адказала Дзіця. — Я хачу толькі аднаго: каб ты аддала мне маю маму...

Доўга маўчала, пра нешта думала Смерць.

— Я не магу аддаць табе тваёй мамы, — прызналася нарэшце яна. — Твая мама мёртвая, я дам табе другую маму... Толькі запомні: калі я зноў убачу цябе тут, на могілках, я забяру ў цябе і другую маму, зраблю цябе навечна сіратою...

Нічога не адказала Дзіця. Толькі выцерла кулачком слёзы і моўчкі пайшло з могілак...

Мінула некалькі дзён, і на магіле маці сваёй зноў плакала, зноў аблівалася слязьмі Дзіця.

— Што табе яшчэ трэба ад мяне? — запыталася Смерць.

— Я хачу, каб ты аддала мне маю маму, — сказала Дзіця.

— Я дала табе новую маму, замест тваёй... Што ты яшчэ ад мяне хочаш?

— Я хачу, каб ты аддала мне маю маму, — стаяла на сваім Дзіця. — Тая мама, што ты мне дала, не мая... У мяне адна мама, і ніхто — ніхто яе не заменіць...

— Але ж я гаварыла ўжо: я не магу аддаць тваю маму... Яна мёртвая...

— Тады зрабі так, каб было мёртвае і я, — папрасіла Дзіця.

Зноў доўга маўчала, пра нешта думала Смерць.

— Добра, — урэшце сказала яна. — Я зраблю так, каб ты было мёртвае. Але не, не цяпер. Перш чым я забяру цябе да тваёй мёртвай мамы, ты пажывеш адно на белым свеце... Каб ведала, як жыць аднаму... Я забяру ў цябе і тую маму, што я табе дала...

— Забірай, — сказала Дзіця. — Яна ўсё адно не мая, а чужая...

— У, няўдзячнае ты дзіця, — разгневалася Смерць. — Адмовіцца ад мамы, што я дала?.. Мучайся ж, пакутуй адно... Бо я і бацьку ад цябе забяру, аддам яго новым дзецям і іхняй маме... А ты будзь адно... Адно!..

Яшчэ мацней сціснула Смерць касільна, скрыганула зубамі і знікла з вачэй...

А Дзіця засталося на магіле сваёй маці. Асталося плакаць, успамінаць, якая ў яго была ласкавая мама і як добра было пры ёй жыць...

*

На магіле свайго дзіцяці плакала, аблівалася слязьмі маладая Маці. Плакала не дзень, не два, а доўгія месяцы, гады. І сэрца, каменнае, нялюдскае сэрца старое кашчавае Смерці не вытрымала — закалацілася: з рук у яе выпала шчарбатая каса, на вочы нагарнуліся слёзы.

— Што табе трэба ад мяне, Маці? — спыталася Смерць.

— Нічога мне твайго не трэба, — адказала Маці. — Я хачу толькі аднаго: каб ты аддала мне маё дзіця.

Доўга маўчала, пра нешта думала Смерць.

— Я не магу аддаць табе тваё дзіця, — прызналася нарэшце яна. — Дзіця тваё мёртвае, і ажывіць яго не можа ўжо ніхто. Нават я. Ідзі адсюль, я дам табе другое дзіця...

— Але ж гэта будзе другое дзіця, не тое, што ў мяне было, — сказала Маці. — І я ўсё адно буду плакаць, сумаваць па тым першым...

— Яно будзе тваё дзіця. І ты палюбіш яго, ты забудзешся на тое дзіця, што ў цябе было...

— Не, не забудуся, — адказала Маці. — Але дай мне другое дзіця, калі не можаш вярнуць майго, першага... Дай!..

— Добра, — згадзілася Смерць. — Толькі запомні, калі ты будзеш вельмі плакаць, сумаваць па тым, мёртвым, будзеш хадзіць штодзень на могілкі, я забяру ў цябе і другое дзіця...

Нічога не адказала Маці, моўчкі пайшла з могілак...

Доўга чакала на могілках Смерць. Але Маці не ішла. І тады Смерць прыйшла сама да Маці.

— Ну як, Маці? — спытала яна. — Забылася ты на тое дзіця, што я ў цябе забрала?

— Не, Смерцю, не забылася, — туляючы да грудзей другое сваё дзіця, адказала Маці. — Але я палюбіла гэтак жа, а можа нават болей, і тое дзіця, што ты мне дала... Не забірай у мяне яго, Смерцю, раней, чым забярэш мяне самую... Інакшай я буду зноў гэтак жа сама плакаць, зноў гэтак сама абліваць слязьмі і на магіле новага свайго дзіцяці... Бо яно мне такое ж роднае, як тое, што было...

— Ці хопіць у цябе ласкі і сэрца, — спыталася ў Маці Смерць, — каб лашчыць, песціць жывое і ўспамінаць, думаць пра мёртвае?

— Не бойся, Смерцю. Нават калі ты мне дасі яшчэ некалькі дзяцей, у мяне хопіць і ласкі і сэрца на іх усіх. Бо мне нічога на свеце няма даражэй за маіх дзяцей...

— Добра, хай будзе так, як хочаш, удзячная Маці, — адказала Смерць і пайшла прэч ад Маці — на могілкі...

# ДАВЕРАНЫ ЧАЛАВЕК

Гавораць, што лёс — гэта сляпы дабрадзей. Аднаму аж надта дарыць шчасце, а другому — адну толькі бяду.

Для Валянціны Мойсей не пашкадаваў ён аднаго і другога. Найперш аднак больш шчодра дарыў ёе горам. У 1946 годзе бандыты забілі ёе бацьку. Асталася хворая маці і чацвёра сіротак. Жылі яны тады ў Мілейчыцах. Валя хадзіла ў пачатковую школу, старэйшага брата павятовыя ўлады накіравалі ў школу кадэтаў, малодшыя браты асталіся дома, крыху дапамагалі маме.

— Хапала ўсялякай бяды, — сцвярджае Валянціна Мойсей. — Бывала, зайду да суседзяў, там — мяса, каўбаса, булачкі да абеду, а ў нас — нават хлеба не заўсёды хапала. Пагляджу, сліны наглытаюся, вочы слязьмі нальюцца і без слова ўцякаю дамоў. Тады найбольш дакучліва сціскаў горла жаль па бацьку, тады таксама радзілася ў маім сэрцы нянавісць да ворагаў народнай улады.

Таму менавіта яшчэ ў пачатковай школе запісалася Валя ў члены Саюза польскай моладзі. Была 15-цігадовай дзяўчынкай. Трэба ведаць, што ў 1949 годзе насіць членскі білет ЗМП і хадзіць у рубашцы з эмблемамі гэтай арганізацыі на тэрыторыі Мілейчыцкай гміны было небяспечна.

У 1950 годзе Валя паступіла ў Бельскі беларускі ліцэй. Тут таксама адзначалася грамадскай актыўнасцю. У Бельску закончыла восьмы і дзевяты класы ліцэя. Магла вучыцца далей. Але запрапанавалі ёй працу ў органах дзяржаўнай бяспекі. Валя не адмовілася. Хацела больш чынна ўключыцца ў жыццё, сваім сэрцам ненавідзела ворагаў народнай улады. Дык пайшла на гэтую цяжкую і небяспечную працу.



— Як вам цяпер жывецца, таварыш Валя? — пытаю.

– Добра, — са звычайнай чалавечай скромнасцю, без ценю зазнайства гаворыць яна. — А што ж мне наракаць. Маю добрую працу, добрага, дбайнага мужа, які таксама працуе, дзеці растуць, вучацца — сын канчае пачатковую школу, дачка ў трэцім класе, дажыліся спулдзельчай кватэры. Дык чаго ж яшчэ больш? Пры маёй сіроцкай долі, каб не народная ўлада, дык прыйшлося б мне аставацца вечнай служанкай у багатых паноў. Гэта я кожнаму паўтараю.

Валянціна Мойсей працуе зараз брыгадзірам швальні Сямяціцкай абутковай фабрыкі.

— На маёй змене працуе 30 жанчын, — расказвае яна. — Прадукуем мы мужчынскі туфлі і сандалі. Вытворчасць у нас наладжана канвеерным (тасьмовым) метадам. Адна работніца залежна ад другой. Калі хаця адна з іх нядбайна працуе, атрымоўваецца прадукцыя паніжанай якасці. Дык неабходна пастаянна сачыць за ўсім, арганізаваць людзей так, каб усё ішло як найбольш спраўна. Кожны дзень у нас бываюць 15-цімінутныя перапынкі на другое снеданне. У час гэтых перапынкаў, калі машыны маўчаць, мы заводзім гутаркі па «душах». Аднойчы рашылі, што пачнем працаваць па лозунгу: «Не прыму браку ад сяброўкі». Абазначала гэта, што кожная работніца была абавязана звярнуць назад сваёй сяброўцы нестаранна выкананую нейкую аперацыю. У выніку гэтага на маёй змене колькасць ботаў, якія ідуць у II гатунак, паменшылася з 2% на паўпрацэнта, а на два нашы вырабы — на мужчынскія сандалі — дабіліся мы знаку высокай якасці. Дзякуючы больш дбайнай працы, павысілася зарплата нашых рабочых.

Нармальна выпускаем мы ў дзень па 300 пар туфляў і сандаляў. Аднак у гонар 25-цігоддзя нашай дзяржавы абавязаліся мы выпусціць звыш плана 6 тысяч пар абутку. Дык зараз выпускаем у дзень па 350 пар. Гэта патрабуе ад нас асабліва павышанай мабілізацыі і ўвагі. А ў мяне працуе шмат адзінокіх жанчын, у якіх малыя дзеці. То адна, то другая не прыходзіць да працы з прычыны хваробы дзяцей. Прыходзіцца самой ставаць за машыну, каб толькі не было затрымкі ў прадукцыі.

Валянціна Мойсей у Сямяціцкай фабрыцы абутку працуе ўжо 12-ты год. Два гады таму назад фабрыка адзначала сваё 10-цігоддзе. З гэтай нагоды Валянціна Мойсей атрымала шмат розных узнагарод і дыплом перадавіка сацыялістычнага спаборніцтва.

Яна не толькі добры арганізатар прадукцыі. Не меншую актыўнасць праяўляе таварыш Валя ў грамадскай дзейнасці, асабліва ў прафсаюзнай арганізацыі і рабочым свеце сваёй фабрыкі.

Значыць таварыш Валя Мойсей даверaны чалавек сямяціцкіх рабочых. Таму яны выбралі яе сваім кандыдатам у радныя ВРН. Дзейнасць раднага для Валянціны Мойсей ужо вядомая. У 1958—1961 гадах яна прадстаўляла сваіх выбаршчыкаў у ваяводскай радзе.

**В. Рудчык**

патамі ў руках, запісвалі прозвішчы перадавікоў. Зараз аглядаю плён трохгадовай грамадскай працы сялян: стаяць голыя сцены, ніхто не ведае, як доўга яшчэ будуць стаяць.

Пайшоў я ў Каралёў Мост, дзе месціцца сядзіба грамадскай рады нарадовай, каб пагаварыць з яе старшынёю аб калоднаўскай святліцы. Больш за ўсё з абавязку, чымсьці з перакананя. Логіка шматгадовага вопыту дыктуе мне гэтую няўхільную, грубую праўду: калі ўлады ў пабудове святліцы не памагаюць, значыць, маюць на гэта свае прычыны. Так званыя «аб'ектыўныя прычыны»!

Прадчуванні пацвярджаюцца. Старшыня ГРН са стаічным спакоем і паважай прадстаўніка ўлады тлумачыць мне падрабязна, пункт па пункце, прычыны затармажэнняў у будове: у 1966 годзе людзі зрабілі фундаменты, але нельга было знайсці выканаўцы, у 1967 годзе знайшоўся прыватны выканаўца, але не было патрэбных будаўляных матэрыялаў, у 1968 матэрыялы былі, але ізноў но было выканаўцы.

— Адным словам, — з веданнем закончыў старшыня, — недахоп пераробнай моцы, і ў тым уся бяда.

« Недахоп пераробнай моцы» — гэтую агульную фразу чуў я неаднаразова ад розныхураднікаў, чытаў у газетах, слухаў па радыё. У канкрэтных умовах вёскі абазначае гэта пачатыя грамадскай ініцыятывай і незакончаныя з незразумелых сялянам прычын святліцы і школы. Прычыны гэтыя не заўсёды знаходзяць тлумачэнне ў прыязджаючых у вёску прадстаўнікоў грамадскіх улад. Каб хутчэй уладзіць сваю справу, абяцаюць яны многа, чым хутчэй штэмпелююць камандзіроўкі, выязджаюць адкуль прыехалі і больш сюды не паказваюцца. У сялян астаецца ўражанне абыякавасці ўлад да іх спраў.

Паціскаючы на развітанне мне руку старшыня Грамадскай рады нарадовай у Каралёвым Мосце амаль па-сяброўску сказаў:

— Чаго яны хочуць ад нас? Улада ў іх руках. Маюць свайго прадстаўніка ў Павятовай радзе і Павятовым камітэце партыі — хай уладжваюць свае справы!

Вось менавіта: прадстаўнікі ўлады. Чаму ў такім выпадку солтысава жонка звяртаецца да мяне і да іншых падобных мне асоб з просьбай аб дапамогу, а не да сваіх, вядомых ёй прадстаўнікоў улады? Якая іх роля ў вясковай супольнасці? Ці з'яўляюцца ў вачах аднавяскоўцаў прадстаўнікамі ўлады, на якую наракаюць сяляне, ці проста сялянамі, якія маюць прэтэнзіі да ўлад?

Развітаўшыся са старшынёю ГРН рашыў я сваёй звычкаю пахадзіць па вёсцы, падглядаючы вясковае жыццё. Ад групы людзей, якія стаялі ля крамы, у якой прадаецца, між іншым, піва, адарваўся мужчына старэйшага ўзросту з няголенай ад трох тыдняў барадою і, падышоўшы да мяне, запытаў пачаткова вельмі лагодна.

— Вельмі пана перапрашаю, ці можна пана штосьці запытаць?

— Калі ласка, пытаць заўсёды можна.

— Скажыце, калі ласка, чаму вы тут так ходзіце ды разглядаеце?

— А скажыце, калі ласка, чаму вы так мяне пытаеце?

— Я вас пытаю, — заявіў мужчына больш рашуча, — ці вы маеце права так хадзіць ды разглядаць?

— А я вас пытаю, ці вы маеце права мяне так пытаць?

— Пакажыце мне дакумент, што вы маеце права так усюды заглядаць!

— А пакажыце вы дакумент, што вы маеце права ад мяне гэтага патрабаваць.

— Нябось, яшчэ на вас знойдзецца ў нас права і ўлада, — сказаў ужо зусім злосна мужчына. — Зараз я пазваню, дзе трэба.

У гэты момант з-за адлеглых пагоркаў паявіўся мой аўтобус. Сарваўшыся з месца, пабег я на аўтобусны прыпынак. Мужчына крыгчаў нешта мне ўслед, але што, сапраўды я ўжо не дачуў.

**Ул. Паўлючук**

# KULTURFESTIVALO DE PEJ

У красавіку г.г. адбыўся ў Беластоку, горадзе стваральніка міжнароднай мовы эсперанта Л. Заменгофа, I Агульнапольскі фестываль маладых эсперантыстаў (La I-a Kulturfestivalo de Pej).

З гэтай нагоды быў выданы фальдэр з творамі беластоцкіх паэтаў і фотаздымкамі, якія датычаць жыцця эсперантыстаў або горада Беластока. З вялікай прыемнасцю трэба аднатаваць факт, што знайшліся тут прозвішчы двух нашых беларускіх літаратараў **Сакрата Яновіча і Юркі Геніюша.** Адкрываецца фальдэр вершам С. Яновіча ў перакладзе з бел. мовы Л. Кажушкі п.з. «Do mojego syna» (па беларуску «Сыну»), а Ю. Геніюша — «Chandra». Побач з успомненымі знаходзім тут вершы Вайцеха Цыльвіка і Эвы Грахоўскай.

Паколькі фестываль мае адзінку, трэба меркаваць, што будуць чарговыя, а ў сувязі з тым і чарговыя выданні. Можна пажадаць і спадзявацца, што творы нашых літаратараў будуць перакладзены на мову эсперанта. (к)

## БЕЛАРУСКАЯ МОДА



Вячэрняя сукенка. Фота В. Казлова




## Спосаб на мурашкі

Многія скардзяцца на мурашак, што проста запаланілі кватэру. Але не ўсе ведаюць, што звычайныя харчовыя дрожджы, якімі мы карыстаемся,— яд для мурашак. Развядзіце дрожджы ў вадзе і для прынады дадайце крыху варэння, цукровай пудры або салодкага пячэння і пастаўце гэта ў буфет. Мурашкі ахвотна з'ядуць сумесь і загінуць.

Не церпяць мурашкі і паху рыбы. Калі вы ў буфет пакладзеце адыходы селядца, мурашкі ўцякуць. Але ўвесь час у буфеце трымаць селядзец нельга — прапахнуць рыбай іншыя прадукты. Таму рэкамендуецца прасачыць, дзе мурашкі знайшлі лазейку ў буфет, і на іх шляху пакласці рэшту рыбы.




### АБ КАРОВАХ І МАЛАЦЭ

Дзе б вам не трапілася на вочы рэклама, усхваляючая малако або малочныя прадукты — адносцеся да яе з поўным даверам. У прапагандзе малака не можа быць пераўвелічэнняў.

У святой кнізе старажытных персаў ёсць такія радкі: «У каровах наша сіла, у каровах наша ежа, у каровах наша адзенне, у каровах наша перамога».

Нягледзячы на вялікія дасягненні тэхнікі, поспехі хіміі, адзіная апаратура, якая паспяхова выробляе малако, гэта карова. У даўнія часы ў Францыі было папулярнае малако асліц, яго лічылі найлепшым замяняльнікам мацярынскага малака, а ў Германіі асліным малаком лячылі ад залатухі. Гавораць, што вельмі смачнае вярблюджае малако — белае, салодкае, смачнае. Малако сланіх вельмі тлустае — 22% тлушчу. Вельмі тлустае малако аленіх. Усім вядомы лячэбныя якасці кумысу. Але ўсё ж лепшага ад каровінага малака няма.

Сярод вучоных ідзе спрэчка, колькі разоў удзень трэба даіць кароў. Не прабуючы з адказнасцю вырашаць гэтае пытанне, скажам, што ў залежнасці ад розных умоў рацыянальным можа быць кожны варыянт.

Але раптам ўзнікла «пабочная» праблема: колькі мінут даіць? Ці варта спяшацца ў час даення? Аказваецца, варта. Доследы, праведзеныя ў Англіі і Даніі, выглядалі вельмі проста. Адных кароў даілі сем мінут, іншых не спяшаючы — шаснаццаць. І вынік быў нечаканы. Хуткае даенне дае на 15% больш малака, а тлустасць павялічваецца на 1/3.

Здараецца, што каровы даюць каляровае малако — сіняе, чырвонае, аранжавае і блакітнае. Гэта залежыць ад травы і лугавых кветак. Лугавая кветка званец — віноўнік блакітнага колеру малака, жоўты колер надае малаку вілец. А калі карова наесца шчаўя, малако хутчэй кісне. Дзікая цыбуля надае малаку такі моцны запах часнаку, што нават цяляты не хочуць падыходзіць да сваёй мамы. Запах часнаку пераходзіць нават на сыр і масла.

У некаторых краінах кармы для кароў вельмі незвычайныя.

У Паўночнай Канадзе кароў, як баброў, навучылі есці дрэва. І не якія-небудзь там галінкі, а сапраўдныя ствалы ў метр таўшчынёй. Справа ў тым, што ў паўночных раёнах Канады шмат тапаляў і мала травы.

Зрэзаныя тапалі малолі і з тапалінай крупы рабілі ежу, дадаючы толькі трошкі ячменю.

Даказана, што кожны чалавек, незалежна ад узросту павінен піць малако і есці малочныя вырабы прыблізна каля 240 кг у год.

Фіны — і стары і малады — выпіваюць у дзень літр малака.

А нам далёка яшчэ да гэтай нормы.

Таму сучасная малочная прамысловасць стараецца як найбольш уводзіць разнастайнасцей у малочныя вырабы.

Нават калі вы з дзіцячых гадоў уздрыгаеце на сам успамін аб параным малацэ — гэта не бяда: усё роўна вас абхітрацць. Ёсць нямала прадуктаў, якія выглядам зусім не падобныя на малако (хоць з малака) і вы іх з'ядаеце.

У свеце паяўляюцца ўсё новыя і новыя малочныя вырабы: у Паўднёвай Афрыцы ядуць сыр з рыбай, у Японіі — сушанае малако з мёдам, морквай ці апельсінамі. Японцы нават пачалі вырабляць малочнае піва з 6% спірту.

У нас ужо вядомыя ў сваім смаку плаўленыя сыры з грыбамі, з ваніллю, кменам і інш.

У моду ўваходзяць фруктова-ягадныя кактэйлі на малацэ, якія вельмі падабаюцца дзецям.

Адзіны клопат з малаком — яго хуткае скісанне. Але над гэтай справай ужо даўно працуюць вучоныя. У недалёкай будучыні малако будзе прадавацца ў стэрылізаваных пакетах і з гарантыяй свежасці на мінімум 10 дзён.

А аўстралійскім вучоным удалося зрабіць цвёрдае малако, якое прадукуецца ў кавалках. Дзеці будуць есці малако, як булкі. А карысць тая самая, як ад свежага малака.

Самая вялікая вартасць малака ў кавалках — яго даўгавечча. Нават у гарачых тропіках яно можа перахоўвацца больш года.

(я)




### ЮШКА

Свежую рыбу прамыйце, адрэжце плаўнікі, галаву і выпатрашыце. Адрэжце хвост, рыбу другі раз прамыйце і пакладзіце ў кіпячую ваду, дадайце соль, перац, карэнні. Варыце рыбу 15—20 мінут, а затым дастаньце яе. Булён пакіньце на краю пліты мінут на 5—6, затым працадзіце і давядзіце да кіпення. У булён пакладзіце дробна нарэзаную і папярэдне абсмажаную бульбу, давядзіце да паўгатоўнасці, накладзіце пасераваную з таматам-пастай цыбулю і зварыце да гатоўнасці.

Пры падачы на стол рыбу пасыпце зяленівам.

На юшку: 200 г. рыбы, масла сметанковае, цыбуля рэпчатая, чайная лыжка тамату-пасты, 3—4 бульбіны, часнок, соль, перац молаты горкі і лаўровы ліст.






Перад фінішам. Аўтар здымка масквіч А. Жылякоў




Па цэнтральнай вуліцы горада Роўна цвёрдай, размеранай хадой ішоў обер-лейтэнант. Тыповы тэўтонскі твар, мужны позірк, «жалезны крыж» першага класа і значкі раненняў сведчылі аб тым, што ён — былы франтавік. Ваенныя, ніжэй чынам, пачціва казыралі яму. Многія з іх ведалі гэтага обер-лейтэнанта, Пауля Зіберта, які прадстаўляў у Роўна «Вігда» — гаспадарчае камандванне, занятае выкарыстаннем рэсурсаў акупіраваных абласцей.

Обер-лейтэнант не быў абмежаваны ў сродках і таму быў прынят у самых інтымных афіцэрскіх колах горада.

— Пауль! — паклікаў яго падпіўшы маёр. — Можа зойдзем прамыем горла?

Зіберт ахвотна згадзіўся.

Афіцэры зайшлі ў першы трапіўшы рэстаран. У гэты паўдзённы час ён быў амаль пусты.

— Давайце вып'ем за наша знаёмства, — прапанаваў маёр, напоўніўшы абодва бакалы. — Цяпер, калі на працягу некалькіх дзён адбываюцца падзеі, якія вырашаюць лёсы цэлых народаў, калі кіраўніка дзяржавы, а то адразу і трох можна прыстукнуць адным махам. Мы з вамі знаёмыя даўно. Ва ўсякім разе, я паспеў вас даволі добра вывучыць. Вы малайчына, Пауль. Паважаю храбрасць. Гэта такія хлопцы, як вы, будуць вырашаць далейшы ход вайны...

— Не разумею... — пачаў было обер-лейтэнант Зіберт, але маёр фон Ортэль не даў яму гаварыць.

— Пакінем пакуль гэту размову. Сюды ідзе афіцыянт. Праз некалькі дзён пагаворым больш падрабязна, а пакуль прашу ўсё гэта трымаць у строгай тайне. Спадзяюся, разумееце важнасць таго, аб чым я гавару.

Зіберт кіўнуў галавой.

Праз некалькі гадзін савецкі разведчык Мікалай Іванавіч Кузняцоў, ён жа обер-лейтэнант Пауль Зіберт, на хутары паблізу Роўна дакладваў начальніку спецыяльнага партызанскага атрада Мядзведзеву аб сваёй размове з фон Ортэлем.

— Відаць, немцы рыхтуюць замах на вялікую тройку, — сказаў ён. — Трэба тэрмінова паведаміць у Маскву.

...Пасажырскі самалёт набліжаўся да Баку. Тут ён павінен быў прызямліцца на некалькі гадзін, а затым ляцець далей, у Тэгеран.

На аэрадроме іх сустрэў супрацоўнік мясцовага апарату органаў дзяржаўнай бяспекі і, правёўшы ў службовае памяшканне, уручыў паведамленне з Масквы, пасланае ім наўздагон. Гэта было данясенне Мядзведзева.

— Ну вось, даныя Шульца ўвогуле пацвердзіліся, — сказаў Шлемаў. — Неабходна перакінуць у Тэгеран для ўзмацнення аховы канферэнцыі полк пагранічнікаў. Яшчэ нядаўна наш урад адхіляў адпраўку войск туды, але цяпер, думаю, у сувязі з дакладнымі данымі аб падрыхтоўцы замаху, можна пайсці на гэта! Апрача таго, трэба камандзіраваць туды найбольш чэкістаў. Застаецца вырашыць, каму канкрэтна можна цяпер даручыць у Тэгеране ўстаноўку нямецкага агента, які жыве пад выглядам польскага эмігранта?

— Думаю, самым падыходзячым для гэтага будзе Валодзя Козыраў, — зазначыў Гардзееў. — Добра гаворыць па-персідску, ведае краіну, літаратуру, мае там вялікія сувязі, а галоўнае знешнім выглядам нічым не адрозніваецца ад тутэйшых, ну чысты перс.

— А, гэта смуглявы такі капітан? Ну што ж, ён, бадай, справіцца.

...Праз тры гадзіны генерал Шлемаў і палкоўнік Гардзееў ехалі на машыне з тэгеранскага аэрадрома ў горад, у савецкае пасольства.

Прамільгнулі ўскраіны Тэгерана. Машына паехала па паўночнай частцы горада. Уздоўж шырокай вуліцы цягнуліся дамы еўрапейскага тыпу. Многа магазінаў. У поўным хаосе, імкнучыся абагнаць адзін аднаго, несліся старамодныя аўтамабілі, бразгаталі аўтобусы. Тут жа, пасвістваючы ражкамі, прабіраліся фаэтоны, запрэжаныя клячамі, не спяшаючыся ішлі вярблюды з грузам. Зрэдку мільгалі камфартабельныя лімузіны.

Прыбыўшы ў савецкае пасольства, Шлемаў і Гардзееў адразу ж выклікалі Козырава.

— Ну, давайце пяройдзем да справы, — сказаў Шлемаў пасля ўзаемных прывітанняў. — Нам трэба тэрмінова ўстанавіць у Тэгеране нямецкага агента, які легалізаваўся пад выглядам польскага эмігранта. Па спецыяльнасці ён інжынер-будаўнік. Якія ў вас ёсць магчымасці зрабіць гэта, не распытваючы людзей?

Козыраў падумаў і адказаў:

— Самы хуткі і зручны спосаб — паспрабаваць устанавіць гэта па кнізе мясцовай паліцыі. У ёй улічваюцца эмігранты, якія жывуць у Тэгеране, адрас і іншыя звесткі. У паліцыі ведаюць мяне як прадстаўніка савецкіх ваенных улад і даюць мне кнігу без пярэчанняў. Прычым, тлумачыць, каго мы шукаем, — не трэба.

Неўзабаве ў кабінеце паліцэйскага палкоўніка, калі ён закончыў і аддаў кнігу палкоўніку, той усміхаючыся зазначыў:

— Нічога, напэўна, не знайшлі, адчуваю па тым, што не рабілі паметак.

— Так, таго, што мяне цікавіць, у кнізе няма.

— Можа патрэбна наша дапамога?

— Не, дзякую, гэта не так важна, — сказаў Козыраў і, развітаўшыся, пайшоў.

У гэты дзень ён дакладваў вынікі сваіх пошукаў Шлемаву:

У Тэгеране сярод польскіх эмігрантаў два інжынеры-будаўнікі: адзін — Яновіч Уладэк, стары, яму каля 60 гадоў. Жыве на Хіабене Казвін, ва ўласным доме. Прыбыў у Іран у 1942 годзе як эмігрант з Польшчы.

Другі — Цвяклінскі Сігізмунд, 40 гадоў. Трапіў у Іран разам з часцямі польскай арміі Андэрса. Застаўся тут, ажаніўся. Абодва маюць уласныя аўтамабілі.

— Добра. Прыгледзьцеся да іх, патрэбны больш падрабязныя даныя, — загадаў Шлемаў.

Устанавіўшы нагляд за палякамі, Козыраў высветліў, што Яновіч амаль нідзе не бывае, цэлыя дні праводзіць на рабоце. Цвяклінскі ж паводзіць сябе падазрона: кожную раніцу аб'язджае на машыне кафэ, і, знайшоўшы там

# ТРЫБУНА чытачоў

## ЖАНЧЫНЫ З ТРАСЦЯНКІ

Гурток вясковых гаспадынь у Трасцянцы праяўляе апошнім часам ажыўленую дзейнасць. Выпрацаваў ён цікавыя формы працы. Адной з гэтых форм з'яўляюцца даклады арганізаваныя для жанчын на розныя тэмы. Прыцягваюць яны шмат жанчын. З найбольшым зацікаўленнем слухалі жанчыны даклад лекара з Нарвы на тэмы лячэння рана выкрытага рака.

Іншай формай працы з'яўляюцца конкурсы. Нядаўна гурток браў удзел у конкурсе чысціні і ў конкурсе рацыянальнага харчавання вясковай сям'і. Жаночая арганізацыя наладзіла безалкагольную забаву ў клубе «Рух» і з яе атрымала некалькі соцен зл. даходу. Гурток зараз мае 2 тыс. злотых, за якія плануе закупіць шаткаўніцу да капусты. Душою гуртка з'яўляецца яго старшыня Анастасія Стэпанюк — жанчына разумная, энергічная, якая многа прысвячае часу на грамадскую працу ў гуртку.

Многа памагае ў працы для гуртка таксама Агата Трафімюк і мясцовыя настаўніцы школы.

**Т. Гетоп**
**Трасцянка**

## У СТОЛБЦАХ

Многія пішуць аб дзейнасці БГКТ у сваіх вёсках. Я таксама хацеў бы нешта напісаць аб нашай вёсцы і аб культурнай дзейнасці. Вёска Столбцы, у Сямяціцкім павеце, раскінутая, хата ад хаты амаль на кіламетр. Моладзі ў нас многа няма, але тая што ёсць, не спіць. Арганізуе шмат розных мерапрыемстваў і таму наша вёска належыць да перадавых у Сямяціцкім павеце. Найгорш, што няма ў вёсцы электрычнага святла і святліцы. Але думаем, што за пару год напэўна ўсё будзе. Яшчэ хацеў бы ўспомніць і аб галоўных арганізатарах. Пару год назад арганізатарам і важаком моладзі быў М. Данільчук. Нядаўна задумаў ён жаніцца і пакінуў цікавіцца працай моладзі. Не толькі пакінуў цікавіцца, але дзейнічае нават на шкоду нашага маладзёжнага калектыву. Усё ўжо можа развеялася б, але дзяўчаты нашы актывізаваліся і ўсё ўзялі ў свае рукі. Многа памог нашым прыгажуням таксама А. Мартыновіч, настаўнік з суседняй вёскі. Думаю, што «Ніва» выдрукуе маё пісьмо і гэтым заахвоціць яшчэ больш нашу моладзь да шырэйшай і больш актыўнай працы.

**М. Бярозка**
**Столбцы**

## СПАТКАННІ З ЖУРНАЛІСТАМІ «НІВЫ»

У сувязі з днямі асветы, кніжкі і друку журналісты «Нівы» Міхась Хмялеўскі, Уладзімір Паўлючук і Аляксей Карпюк мелі спатканні са школьнай моладдзю і насельніцтвам у Семяноўцы, Ляўкове і Гайнаўцы. Расказвалі яны аб працы рэдакцыі, аб выбарчай кампаніі ў сейм і рады нарадовыя, а таксама аб авансе беларусаў у Народнай Польшчы. Адказвалі яны таксама на шмат пытанняў, якія цікавілі прысутных на спатканнях.

**Віктар Бура**
**Гайнаўка**




**Дарагое Сэрцайка!**

Я вучуся ў сярэдняй школе. З'яўляюся адным з лепшых вучняў. У нашым класе ёсць дзяўчаты. Адна з іх, Люся, мне вельмі падабаецца. Яна таксама добра вучыцца. Вельмі прыгожая. Што зрабіць, каб Люся звярнула на мяне ўвагу. Ці мо ёй проста сказаць, што яе кахаю, але як гэта зрабіць? Ці запрапанаваць ёй разам пайсці ў кіно, ці на шпацыр? А можа пасля ўрокаў адвесці яе дамоў?

І яшчэ адна справа. У нашай школе арганізуюцца забавы. І тут зноў бяда. Не ўмею танцаваць. Парай, дарагое Сэрцайка, як навучыцца, буду табе ўдзячны.

**Яўген**

Так, Генік, залежыць ад чалавека, як ён уяўляе сабе гэтае шчасце, чаго патрабуе, каб быць шчаслівым. Адзін больш, другі менш. Так што і ты павінен дацаніць тое, што з'яўляешся добрым вучнем, а, па-другое, што кахаеш (незалежна, ці гэта пачуццё больш ці менш сталае) яно аднак натхняе да працы, навукі. Які метад выбраць, каб звярнуць увагу Люсі? Мне здаецца, што найлепш будзе на патанцоўцы. Ты з Люсяй знаёмы даўно, разам вучыцеся, у адным класе. Вельмі добра. Тады падыйдзі проста да Люсі і папрасі, каб яна «навучыла» цябе танцаваць. У час танца, пачнеце гаварыць, тады і можаш Люсі запрапанаваць пайсці ў кіно іншым разам, ці адвесці Люсю дамоў пасля патанцоўкі. Напэўна нават у тым першым вечары будзеш мець магчымасць пераканацца, ці ты хоць крышачку падабаешся Люсі.

**Сэрцайка**

## ГАЎНАЎСКІ ЛОК

Гайнаўскі ЛОК (Ліга абароны краіны) падрыхтавала ўжо ў галіне самаабароны 8 тысяч чалавек.

У гэтым годзе — яшчэ 3500 асоб. Асродак маторнай адукацыі падрыхтаваў 140 шафёраў, 930 матацыклістаў, 2 тысячы асоб (у тым ліку шмат веласіпедыстаў) здало экзамены з дарожнага руху.

У 1968 годзе ўручана актывістам ЛОК-у 216 адзнак абароннай спраўнасці.

У гэтым годзе будзе пераказана ў агульнае карыстанне стральніца каля вёскі Ліпіны, пры пабудове якой шмат папрацавала школьная моладзь. Ваяводскае праўленне ЛОК перакажа Гайнаўскаму праўленню ЛОК кароткахвалевую станцыю і радыёсамаход. У Гайнаўцы будуецца спецыяльнае памяшканне для праўлення ЛОК.

У працы ЛОК-у вялікую ролю адыгрываюць такія людзі, як Казімір Кавалік, Эдмунд Навіцкі, Мікалай Дацэвіч, Грыша Чарнецкі, Мікалай Семянюк, Мікалай Беразавец і Сяргей Кудэрскі.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

## ВУЧНЁЎСКІЯ СПУЛДЗЕЛЬНІ

На Бельшчыне існуе 34 вучнёўскія спулдзельні з лікам 4 174 членаў. Да найстарэйшых вучнёўскіх спулдзельняў адносяцца спулдзельні ў Кальніцы і Глінніку, а настаўніцы Зося Чарняўская і Людвіка Пухальская функцыю грамадскіх апекуноў у сваіх школах выконваюць ужо 11 гадоў.

Асноўнаю формаю працы ў вучнёўскіх спулдзельнях з'яўляюцца школьныя крамікі, але апрача іх некаторыя спулдзельні вядуць гадоўлю трусоў, займаюцца агародніцтвам, вядуць пункты напаўнення даўгапісаў і цырульныя пункты. І так, напрыклад, вучнёўская спулдзельня пры пачатковай школе № 2 у Бельску вядзе кіёск «Руху», а ў Дзяніскаў вучнёўская спулдзельня займаецца вырошчваннем трускалак, рамонку і мяты.

Гэтыя ж спулдзельні ў мінулым годзе на Бельшчыне мелі 900 тысяч злотых абаротаў, а чыстага даходу — 83418 зл. З гэтага выпрацаванага даходу перуказана 13 тысяч зл на будову Цэнтра здароўя дзіцяці.

**Ю. Альшэўскі**
Бельск Падляшскі

## У БЕЛЬСКІМ ОРМО

Гаворачы аб дасягненнях Бельскага ОРМО (добраахвотніцкая грамадска-рабочая міліцыя) у Бельскім павеце нельга абмінуць тых праблем, якія датычаць бяспечнасці. А яна з кожным годам паляпшаецца. Асабліва хутка змяняецца ў павеце колькасць злачынстваў. А зноў з развіццём механізацыі і павелічэннем колькасці самаходаў на дарогах узрастае лік дарожных выпадкаў.

Бельская арганізацыя ОРМО, якая выдатна дапамагае ва ўтрыманні парадку, з кожным годам павялічвае свае рады, і зараз налічвае больш 670 членаў. Члены ОРМО, арганізаваныя ў 7-мі спецыяльных групах, такіх як група для непаўналетніх, група дарожнага руху, групы ў паасобных прадпрыемствах. Найбольшыя арганізацыі ОРМО ёсць у Бельску, Храбалах, Орлі, Страблі і Рыбалах. Членамі гэтай арганізацыі тут у асноўным з'яўляюцца сяляне. У мінулым годзе члены ОРМО былі 2352 разы на службе, затрачваючы на гэта 14936 гадзін свайго вольнага часу. У гэтым часе, між іншым, правялі яны 1225 кантроляў адносна спосабу выконвання супрацьпажарных вартаў, 778 кантроляў, якія забяспечваюць аб'екты перад пажарамі і пакражаю, 2169 дарожных кантроляў, 22 службы над вадою. ОРМО-оўцы ў мінулым годзе выкрылі 624 рознага роду парушэнняў. Затрымалі яны 16 шафёраў, якія ў нецвярозым стане маглі быць прычынаю выпадкаў, выкрылі больш, як 70 розных дробных злачынстваў.

ОРМО-оўцы прымаюць актыўны ўдзел у грамадскіх чынах, вартасць якіх акрэсліваецца на 71 тысячу зл.

Найлепшым ОРМО-ўцам прызнаны адзначэнні. І так, Анатоль Сабалеўскі з Бранска атрымаў медаль за заслугі для Абароннасці краіны, 8 членаў ОРМО атрымала адзнаку за 20-цігадовую службу, а 19 членаў ОРМО атрымала адзнаку за 10-цігадовую службу ў ОРМО.

**Веслаў Фалькоўскі**
Бельск Падляшскі

## «КАВАЛЕРСКАЯ» ЯЗДА

У Гайнаўскім павеце часта можна спаткаць матацыклістаў, якія паказваюць «кавалерскую» язду. Многія матацыклісты не звярталі ўвагі на правілы руху. Вось прыклад, які найчасцей здараецца на дарогах Гайнаўшчыны. Матацыклісты перад выпярэджваннем фураў зусім не ўпэўніваюцца, ці ззаду не даганяе іх нейкі самаход або матацыкл. Матацыклісты, толькі паказаўшы рукою змену кірунку руху, раптоўна пераязджаюць на левы бок шашы. Страх толькі падумаць, што магло б здарыцца, каб нейкая «Волга» з вялікай хуткасцю выпярэджвала матацыкліста, а матацыкліст, няўпэўніўшыся, выпярэджваў фуру. Тады матацыкліст напэўна трапіў бы пад колы машыны.

**Я. М.**
Гайнаўскі павет

---

нейкага цыбатага амерыканскага сержанта, не спускае з яго вачэй цэлы дзень. У той час, як чэкісты назіралі за Цвяклінскім, ён, напэўна, сачыў за сержантам.

Дакладваючы генералу Шлемаву аб выніках сваёй работы, Козыраў адзначыў, што найбольш падазроным яму здаецца Цвяклінскі. Яновіч жа робіць уражанне старога балбатуна. Да яго даволі часта на работу заходзіць гаспадар начнога прытона, нехта Рахім-хан Табары. Ніякіх спраў з будаўнічай фірмай, у якой працуе Яновіч, ён не мае. Напэўна, прыходзіць проста пагаварыць.

Шлемаў задумаўся.

— Трэба паназіраць за гэтым Табары.

На наступны дзень Гардзееў і Козыраў, абодва ў цывільным, чакалі ў аўтамабілі воддаль ад дома Табары. Неўзабаве гаспадар выйшаў на вуліцу. Гэта быў высокі, моцны чалавек, гадоў пяцідзесяці. Твар у яго быў пабіты воспай, даволі яшчэ распаўсюджанай у Іране. Табары накіраваўся да базару.

Гардзееў і Козыраў, накіроўваючыся за ім, ішлі па крытых вуліцах, што напалавіну ўваходзілі ў зямлю, з крамамі па абодвух баках. Табары спыніўся ў мануфактурным радзе каля крамы з пасцельнымі рэчамі. Ён таргаваўся і купіў дзесяць камплектаў пасцельнай бялізны. Заплаціўшы грошы, напісаў на кавалачку паперы, куды даставіць.

Потым ён зайшоў у магазін, што гандляваў коўдрамі. Чэкісты насцярожыліся: навошта яму столькі пасцельных рэчаў? Прытон жа — не гасцініца... Відаць, нешта задумваецца... Але што?

Перадаўшы назіранне за Табары іншым чэкістам, яны вярнуліся да сябе. Супрацоўнікі, якія назіралі за Цвяклінскім далажылі, што той, нарэшце, завяршыў сваё сачэнне за амерыканскім сержантам. Адбылося гэта так. Чакаючы сержанта ля кафэ, Цвяклінскі ўбачыў, што ён выйшаў адтуль з высокай, поўнай дамай. Цвяклінскі выскачыў з аўтамабіля і накіраваўся да іх. Падышоўшы, ён пачаў нешта ўзбуджана гаварыць жанчыне, але тая ў адказ дала яму аплявуху. Цвяклінскі, разгубіўшыся, адышоў. Дама дагнала яго, яны селі ў машыну і паехалі, а сержант, ухмыляючыся, вярнуўся ў кафэ. Дама, як высветлілася потым, была жонкай Цвяклінскага.

— І ў сур'ёзнай справе не абысціся без анекдота, — зазначыў Гардзееў, выслухаўшы даклад падначаленых. — Тым не менш трэба працягваць назіранне за Цвяклінскім.

— Не, а табе, Валодзя, трэба зазірнуць сёння ноччу ў прытон Табары. Можа знойдзем пацвярджэнне нашым здагадкам, — сказаў Гардзееў, калі яны засталіся ўдвух з Козыравым.

— Пойдзем, даложым аб усім генералу. — Яны накіраваліся было да Шлемава, але ў тым часе ўвайшлі два задыханыя ад шпаркай хады супрацоўнікі, якія назіралі за Яновічам.

— Стары звязваецца з кімсьці па рацыі, устаноўленай у яго машыне, — далажыў адзін з іх. — Ад'ехаўшы ад Тэгерана ў бок Дэмавенда, Яновіч звярнуў у лес і там правёў сеанс сувязі.

Наступны дзень прынёс важную навіну. Удалося перахапіць атрыманую Яновічам, відаць, у адказ на яго паведамленне, радыёграму. У ёй паведамлялася, што нямецкія тэрарысты прыбудуць у Іран днямі самалётам з боку Турцыі і прызямляцца ў размяшчэнні племя курдскага шэйха. Адтуль з яго дапамогай яны будуць прабірацца ў Тэгеран. Яновічу было загадана звязацца з шэйхам, схаваць гасцей і неадкладна паведаміць аб іх прыбыцці.

(Працяг за тыдзень)

# КІНО

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Кляшчэлі**

„Na Rusi" (radz.), 27—28. V. „Drewniany różaniec" (polski), 29—30. V. „Pięciu" (polski), 31. V. — 1. VI.

**Нараўка**

„Wspaniałe wakacje" (rumuński), „Zosia" (polski), 28. V. — 1. VI.

**Нарва**

„Rondo" (jugosł.), „Trzy topole" (radz.), 28. V. — 1. VI.

**Чыжы**

„Hrabina Cosel" (polski), „Otello z prowincji" (węgierski), 28. V. — 1. VI.

**Дубічы Царкоўныя**

„Żenia, Żenieczka, katiusza" (radz.), 28. V. — 1. VI.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Jak się pozbyć Helenki" (angl.), „Miałem 19 lat" (NRD), 28. V. — 1. VI.

**Орля**

„Prywatna burza" (czeski), „Rozwód z miłości" (węgierski), 28. V. — 1. VI.

**Райск**

„Berlin" (radz.), „Romanca na trąbkę" (czeski), 28. V. — 1. VI.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Mam tu swój dom" (polski), „Słońce obcego nieba" (jugosł.), 27. V. — 30. V.

**Міхалова**

„Grek Zorba" (USA), 27—28. V. „Start" (bułg.), 29—30. V. „On nie chciał umierać" (radz.), 31. V. — 1. VI.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Język zwierząt" (radz.), 27 — 28. V. „Czarny mustang" (USA), 29—30. V. „Morderca na zawołanie" (NRD), 31. V. — 1. VI.

**Шудзялава**

„Wzgórze" (angl.), „Żywot Mateusza" (polski), 28. V. — 1. VI.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Сухаволя**

„Wilcze echa" (polski), „Cierpkie wino" (radz.), 28. V. — 1. VI.

**Новы Двор**

„Krew na śniegu" (jugosł.), „W martwej pętli" (radz.), 31. V. — 1. VI.

**Ліпск**

„Film z czarującą dziewczyną" (rumuń.), „Skrytobójcy" (NRD), 31. V. — 1. VI.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 2-10-33, centrala 2-32-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2,40 zł, kwartalnie — 7,20 zł, półrocznie — 14,40 zł, rocznie — 28,80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok I Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23. Nr konta PKO I-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem: CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP; Warszawa 2-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4,70 $ w Europie, 5 $ — w USA.

B.Z.Graf. H-1 NAKŁAD 7107

